


# НавінЫ

БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

нумар 3 (36) 6 лютага 2001 г.


# Дэмакратычныя сілы рыхтуюцца да Кангрэсу



*Падчас Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў, 2 ліпеня 2000 г.*

***Першае паседжаньне ўзноўленага Арганізацыйнага камітэту Кангрэсу дэмакратычных сілаў (КДС) адбылося 1 лютага ў памяшканьні Ўправы БНФ. Праводзіў паседжаньне намесьнік старшыні Аргкамітэту, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэту Мечыслаў Грыб. Прысутнічаў і другі намесьнік старшыні аргкамітэту, адзін з прэтэндэнтаў на статус адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў, Сямён Домаш.***

Арганізацыйны камітэт разглядаў два асноўныя пытаньні. Першым зь іх была канрэтызацыя даты правядзеньня чарговага Кангрэсу. Задача КДС – вызначыць імя таго кандыдата ў прэзыдэнты, якога згодныя падтрымаць аб'яднаныя дэмакратычныя сілы.

Каардынацыйная Рада запрапанавала ў якасьці найбольш рэальнага, гэта значыць дастаткова раньняга, але і ня надта позьняга тэрміну, сакавік. (Шмат прагнозаў сьведчыць, што выбары могуць быць абвешчаныя ў траўні на жнівень альбо на верасень). Пасьля пэўнай дыскусіі й рэйтынгавага галасаваньня выявілася, што бальшыня сяброў Аргкамітэту схіляецца да варыянту першай паловы сакавіка, бо з 15-га, як вядома, стартуюць масавыя акцыі, і грамадзкае напружаньне можа проста не дазволіць дастаткова якасна правесьці Кангрэс. Трэба назваць імя прэтэндэнта да масавых акцыяў – такім быў аргумэнт. Разам з тым, паводле таго ж рэйтынгавага галасаваньня, канчатковую дату вырашылі вызначыць на Аргкамітэце пасьля паседжаньня Каардынацыйнай Рады. «Адбыліся пэўныя падзеі, некаторыя прэтэндэнты заявілі, што яны ня будуць прэтэндаваць на званьне кандыдата, падтрыманага КРДС, і такім чынам, іхныя імёны, відаць, і не павінны ўстаўляцца ў сьпіс прэтэндэнтаў, якіх падтрымлівае КРДС і Кангрэс дэмакратычных сілаў», – выказаў сваю думку старшыня БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вінцук Вячорка.

Другім было пытаньне квотаў прадстаўніцтва на Кангрэсе дэмакратычных сілаў. У цэлым, тое прадстаўніцтва на КРДС, якое склалася традыцыйна, зь неістотнымі зьменамі было рэкамэндавана захаваць. Зараз гэтае пытаньне аддадзенае на абмеркаваньне кіраўніцтву суб'ектаў, што ўваходзяць у Каардынацыйную Раду дэмакратычных сілаў.

Лідэр БНФ Вінцук Вячорка так пракамэнтаваў вынікі паседжаньня Аргкамітэту: «Старт працы Арганізацыйнага камітэту – гэта знак нашай рашучасьці як мага хутчэй давесьці да канца мэханізм вылучэньня адзінага прэтэндэнта».

**Прэсавая група БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ**

# ЗМАГАЦЦА МОЖНА НЕГВАПТОЎНА

## Сэмінар пра негвалтоўныя мэтады барацьбы выклікаў нездаровую рэакцыю рэжыму

***Каля 40 чалавек, прадстаўнікі палітычных партыяў ды Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 13 скліканьня, амаль тыдзень (з 25 па 31 студзеня) ўдзельнічалі ў сэмінары, прысьвечаным негвалтоўным мэтадам супраціўленьня рэжыму.***

Сэмінар быў арганізаваны сябрамі летувіскай фундацыі «Група стратэгічнага разьвіцьця», якую ўзначальвае Аўдрус Буткявічус, а таксама старшынём Вярхоўнага Савету Сямёнам Шарэцкім пры дапамозе прадстаўнікоў інстытуту імя Альбэрта Эйнштэйна.

Аўдрус Буткявічус вядомы як кіраўнік дзяржаўнага дэпартамэнту аховы краю ва ўрадзе Ландсбэргіса. Падчас падзеяў 1989 году, калі М. Гарбачоў сілай савецкіх войскаў спрабаваў зьнішчыць незалежнасьць Летувы, Буткявічус выступіў як аўтар тактыкі бязьзбройнага супраціву, што ў выніку й дало магчымасьць перамагчы ў цяжкай сытуацыі.

Сэмінар праводзіў дырэктар інстытуту імя Альбэрта Эйнштэйна, знаны ў сьвеце спэцыяліст-тэарэтык паводле негвалтоўных мэтадаў барацьбы Джын Шарп.

Адметна тое, што мерапрыемства фінансавалася не амэрыканскім бокам, а прыватным чынам.

Акрамя таго, на сэмінары прысутнічалі прадстаўнікі летувіскай фундацыі «Падтрымка грамадзянскай абароны», а таксама Мішэль Рывалье – намесьнік старшыні рабочай групы АБСЭ, Джон Кунстэтэр – намесьнік галавы місіі ЗША ў Беларусі.

Беларускія ўлады не маглі пакінуць па-за ўвагай справы апазыцыйных палітыкаў, таму ўвесь час на сэмінар імкнуліся невядомыя людзі. Той, хто называў сябе прэсавым сакратаром беларускай амбасады, патрабаваў, каб яго пусьцілі прысутнічаць на сэмінары з той прычыны, што ён папросту хоча.

У гатэлі, дзе жылі ўдзельнікі, зьявіліся беларускія камэрсанты, як высьветлілася пазьней – КДБэшнікі. А пасьля – затрыманьне аднаго з удзельнікаў, Генадзя Цярэні на мяжы й канфіскацыя вучэбных матэрыялаў з сэмінару.

Такую боязь уладаў Анатоль Фёдараў, старшыня магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне», а таксама адзін з удзельнікаў сэмінару, пракамэнтаваў як страх прайграць прэзыдэнцкія выбары, калі дэмакратычныя сілы беларусі «змогуць правільна сплянаваць стратэгію ды пісьменна правесьці прэзыдэнцкую кампанію».

**Алена ПАПЛАЎСКАЯ**

працяг тэмы на старонцы 5

Кроніка

# ЧЭСКАЯ І СЛАВАЦКАЯ ПРЭСА АБ БЕЛАРУСІ

## Затрыманьне Барадзіна мае палітычны падтэкст?



Павел Барадзін

***26.01.2001 чэскае цэнтральнае выданне «Hospodarske noviny» надрукавала артыкул, у якім расказвае пры скандал, зьвязаны з арыштам сакратара Саюзу Расеі й Беларусі.***

Аўтар матэрыялу разглядае некалькі вэрсіяў затрыманьня Барадзіна: ад сумеснай акцыі расейскіх і амэрыканскіх спэцслужбаў да помсты замежжа за няўдалую спробу пасадзіць у турму крымінальнага аўтарытэта Міхайлава. «У любым выпадку, – лічыць выданьне, – скандал з Барадзіным моцна падрывае аўтарытэт кіраўнікоў Саюзу Расеі й Беларусі».

Газэта таксама падкрэсьлівае, што «нават адыёзны беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка, які падтрымлівае Барадзіна, ня мае жаданьня прысягаць у невінаватасьці калегі».

## Беларускі прэзыдэнт абураецца супраць назіральніцкай місіі АБСЭ

***29.01.2001 гэтае ж выданьне надрукавала артыкул пад такой назвай, дзе распавядае пра тое, як Аляксандар Лукашэнка абвінавáціў місію АБСЭ у сымпатыях да апазыцыі якраз перад восеньскімі выбарамі.***

«Лукашэнка аб'явіў, што на Беларусі рыхтуецца народная рэвалюцыя, падобная на тую, што адбылася ў кастрычніку і зьнішчыла югаслаўскага дыктатара Мілошавіча». Штотыднёвік нагадвае: «Лукашэнка, якім абвінавачваецца Захадам у аўтарытарных мэтадах кіраваньня дзяржавай, даволі часта робіць напады на місію АБСЭ, якая мае офіс у сталіцы. Так, у лістападзе 2000 г. ён нават дапусьціў магчымасьць таго, што беларускія ўлады будуць патрабаваць ад'езду місіі АБСЭ».

«Hospodarske noviny» таксама цытуюць некаторыя выказваньні Лукашэнкі аб апазыцыі, Эўропе і недапушчальнасьці паўтору сцэнару Югаславіі на тэрыторыі Беларусі.

**Беларускі форум у Празе «Адраджэньне»**

Рэха

# Эўрапейскі Зьвяз рэагуе на выпады Лукашэнкі

***Швэцыя (старшыня Эўрапейскага Зьвязу) распаўсюдзіла афіцыйную рэакцыю на выступ Аляксандра Лукашэнкі, які беларускае тэлебачаньне трансьлявала 27-га студзеня і на заяву міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова ад 31-га студзеня.***

Нагадаем, Аляксандар Лукашэнка фактычна абвінаваціў місію АБСЭ ў далучанасьці да сілавага супраціву ўладам, а міністар замежных справаў тлумачыў пазыцыю афіцыйнага Менску як імкненьне да дыялёгу з АБСЭ. Эўрапейскі зьвяз выказвае шкадаваньне з прычыны тону і стылю інтэрвію ў дачыненьні да АБСЭ і Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў прыватнасьці. Заява Эўразьвязу дэманструе жаданьне, каб дыялёг зь місіяй АБСЭ працягваўся. Эўрапейскі Зьвяз спадзяецца, што на гэтай аснове група АБСЭ ў Беларусі зможа й надалей дапамагаць ураду і народу Беларусі. Асацыяваныя сябры – Баўгарыя, Кіпр, Эстонія, Вугоршчына, Латвія, Літва, Мальта, Румынія, Славаччына, Славенія, Чэская Рэспубліка і Турэччына далучаюцца да гэтай заявы.

**Паводле Радыё «Свабода»**

# ПАДАДЗЕНА ЗАЯЎКА НА ПРАВЯДЗЕНЬНЕ АКЦЫІ «ЛЮБОВІ! СВАБОДЫ! ПЕРАМЕНАЎ!»

***25 студзеня маладзёвая кааліцыя «Пераменаў!» падала заяўку ў Менгарвыканкам на правядзеньне акцыі 14 лютага, прысьвечанай Дню Сьвятога Валянціна, «Любові! Свабоды! Пераменаў!»***

Паводле гэтай заяўкі, акцыя павінна пачацца а 17.00 на плошчы Свабоды. А 17.30 заплянаваны пачатак руху. Карнавальнае шэсьце мусіць прайсьці па вуліцы Леніна, праспэкце Ф. Скарыны і выйсьці на плошчу Незалежнасьці, дзе павінен адбыцца мітынг.

Заяўку ад кааліцыі падпісалі: намесьнікі старшыні Маладога Фронту Яўген Скочка і Аляксей Шэін ды актывіст «Маладзёвай салідарнасьці» Алесь Атрошчанка.

Варта адзначыць, што Яўген Скочка ўжо быў асуджаны на адзін год умоўна за арганізацыю фаервэрку на акцыі «Беларусь у Эўропу – 4» у 1999 годзе.

Апрача Менску, акцыя «Любові! Свабоды! Пераменаў!» мусіць адбыцца ў 32 найбуйнейшых гарадах Беларусі (заяўкі на гэтыя мерапрыемства ўжо падаюцца).

У гэты самы дзень павінна адбыцца акцыя Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларускай, якую кааліцыя «Пераменаў!» абавязкова выкарыстае для віншаваньня працоўных і раскруткі вечаровага шоў. Кансультацыі з ФПБ ужо ідуць.

З раніцы 14 лютага сябры кааліцыі «Пераменаў!» плянуюць абысьці 18 амбасадаў і павіншаваць лідэраў заходніх краінаў з Днём Сьвятога Валянціна.

Таксама да 14 лютага Беларуская Музычная Альтэрнатыва плянуе выданьне касэты «Песьні пра каханьне» і правядзеньне рок-канцэрту, а «Хрысьцінская Ініцыятыва» напярэдадні сьвята арганізуе 12 лютага а 17:00 (Варвашэні, 8) канфэрэнцыю «Пра любоў», з удзелам сьвятароў і вернікаў розных канфэсіяў.




# 14 ЛЮТАГА: АКЦЫІ ФПБ І «ПЕРАМЕНАЎ!» ПРОЙДУЦЬ УЗГОДНЕНА

***30 студзеня на паседжаньні аргкамітэту ФПБ па правядзеньні масавае акцыі «Заробак на ровень цэнаў!» было прынятае рашэньне ўзаемадзейнічаць у працэсе падрыхтоўкі з кааліцыяй «Пераменаў!»***

Запрошаны на паседжаньне кіраўнік Маладога Фронту Павал Севярынец распавёў кіраўніцтву ФПБ пра кампанію «Любові! Свабоды! Пераменаў!», прымеркаваную таксама да 14 лютага. Як вядома, прафсаюзны мітынг і маладзёвая акцыя пачнуцца амаль аднačасова – а 16:00 і 17:00. Таму, каб пазьбегнуць накладак і праявіць узаемную салідарнасьць, дэлегацыя моладзі з адпаведным рыштункам падыдзе на прафсаюзны мітынг павіншаваць працоўных з Днём Любові й падтрымаць іх у барацьбе за свае правы.

Нагадваем: 14 лютага менская моладзь пачынае а 17:00 на пляцы Свабоды.

# Новая ініцыятыва Маладога Фронту

***31 студзеня Міжнародная камісія Маладога Фронту распачала глябальны інфармацыйны праект «НАВІНЫ З СЭРЦА ЭЎРОПЫ: БЕЛАРУСЬ».***

Штомесяц усе значныя навіны, якія мелі месца ў Беларусі за апошні час, скампаноўваюцца і на ангельскай мове рассылаюцца па Інтэрнэце ў шматлікія краіны Эўропы і ўсяго сьвету наогул. Гэта робіцца з мэтай азнаёміць замежнае грамадзтва зь беларускай рэчаіснасьцю: што ёсьць Беларусь, што адбываецца ў гэтай краіне і як на гэта рэагуе прагрэсіўная моладзь. Асаблівая ўвага надаецца выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі, развіцьцю маладзёвага руху, актыўнай ролі МФ у мабілізацыі й вывадзе беларускай моладзі на выбарчыя участкі і тым глыбінным духовым пераўтварэньням, на якіх грунтуецца нацыянальны рух моладзі.

Малады Фронт супрацьпастаўляе сябе фальшывым лукашэнкаўскім мэдыям. Мы прапануем высакаякасную і актуальную інфармацыю пра Беларусь, якая падаецца ў незалежніцкім кантэксьце.

На сёньняшні дзень мы даслалі свае навіны ў 76 краінаў сьвету, ахапіўшы ўсе заселеныя кантынэнты плянэты. У архіве Маладога Фронту сотні электронных адрасоў: галоўныя інфармацыйныя цэнтры, найбуйнейшыя газэты й часопісы, шматлікія няўрадавыя арганізацыі, фундацыі, міжнародныя арганізацыі (Эўразьвяз, Рада Эўропы, АБСЭ, ААН і інш.); маладзёвыя партнэрскія арганізацыі, а таксама ідэйна блізкія палітычныя партыі, сяродзякіх асабліва вылучаецца Рэспубліканская партыя Злучаных Штатаў Амэрыкі.

«Але гэта яшчэ толькі пачатак, – заявіў старшыня Міжнароднай камісіі Маладога Фронту Сяржук Лісічонак, – вядзецца пасьпяховы пошук новых кантактаў, і ўжо ў наступным месяцы мы плянуем значна павялічыць аб'ёмы рассылак. Ёсьць ужо дамоўленнасьці на гэты конт, напрыклад, з сэрбамі з Otpor! і Маладымі Кансэрватарамі Чэхіі.»

Новы інфармацыйны праект – частка з комплексу актыўных мэтанакіраваных дзеяньняў Маладога Фронту падчас прэзыдэнцкай кампаніі. Нагадаем, што Малады Фронт будзе падтрымліваць кандыдата ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала прэс-служба Маладога Фронту**

# БЛЕФ СА ЗНАКАМ ЯКАСЬЦІ



**Уладзімер КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук, прафэсар**

***Як вядома, яшчэ пры канцы мінулага году Аляксандар Лукашэнка, пэўна, у якасьці першага этапу падрыхтоўкі да прэзыдэнцкіх выбараў, абвясьціў аб падвышэньні сярэдняй заробнай платы бюджэтнікам да лета 2001 году аж да 100 даляраў у месяц. Гэтае паведамленьне было сустрэтае грамадзкасьцю са зьдзіўленьнем, бо на той час ды й зараз заробная плата, напрыклад, настаўнікаў ці лекараў складала й складае дзесьці 40-45 даляраў. Дык як можна за якіх паўгады павялічыць яе болей як удвая?***

Але паколькі абвестку аб небывалым росьце заробнай платы зрабіў сам уладар, то вышэйшыя чыноўнікі сталі праяўляць клопат, як выканаць высокае даручэньне, дзе ўзяць для гэтага патрэбныя 1,4 трыльёны рублёў. У Міністэрстве эканомікі, паводле словаў Уладзімера Шымава, устанавілі дзьве асноўныя крыніцы мабілізацыі грашовых рэсурсаў. Першая і галоўная – трэба перакрыць і да таго высокае плянавае заданьне па росьце ВУПу ў 2001 годзе на 3,5% яшчэ на 1,5%. Але пры тых эканамічных умовах, якія скла́ліся ў краіне на пачатку году, гэтыя намеры выглядаюць адно фантазіяй. Другая крыніца рэальная – зьніжэньне непрадукцыйных выдаткаў. Але яна мае два бакі: зрабіць акумуляцыю сродкаў бюджэту для заробнай платы можна толькі тады, калі іх ад кагосьці забраць. Але сэквэстар дзяржаўнага бюджэту не дае вялікіх рэсурсаў – удалося знайсьці недзе 60 мільярдаў рублёў. Ды яшчэ выявілі 45 мільярдаў рублёў. Гэта тыя грошы, якія былі рэзэрвовымі для выкананьня розных сацыяльных праграмаў. Калі гэтыя грошы давядзецца забраць, то пад пагрозай невыкананьня апынуцца сацыяльныя праграмы. Хіба насельніцтва ад гэтага можа выйграць?

Грошай усё адно не хапае. І Міністэрства фінансаў разам зь Міністэрствам эканомікі сталі шукаць іншыя крыніцы. І, як сякеру пад лаўкай, знайшлі. Напрыклад, урад ушчыльную падышоў да разьвязаньня праблемы перакрыжаванага фінансаваньня. Сутнасьць праблемы ў тым, што за электрычнасьць і цяпло хатнія гаспадаркі плацяць меншыя кошты, але гэта кампэнсуюць прамысловыя прадпрыемствы, бо яны за тыя ж паслугі плацяць большыя кошты, тым самым як бы фінансуючы індывідуальных спажыўцоў. Урад вырашыў зьняць з прадпрыемстваў цяжар памерам 400 млрд. рублёў, разьлічваючы на тое, што павысіцца рэнтабэльнасьць вытворчасьці й болей сродкаў паступіць у бюджэт. Разьлік добры і мерапрыемства само па сабе даўно насьпела. Але справа ў тым, што адкідваючы перакрыжаванае субсыдаваньне, урад мусіць рэзка павысіць тарыфы на камунальныя паслугі для індывідуальных спажыўцоў. Менавіта з гэтай прычыны йдзе татальнае падвышэньне платы за жыльлёвыя паслугі й карыстаньне грамадзкім транспартам. Так што падвышэньне заробнай платы яшчэ нібы наперадзе, а людзі ўжо плацяць за ўсе паслугі ўсё болей і болей. Растуць цэны на харчаваньне, у тым ліку на хлеб – прадукт масавага спажываньня. З 20 студзеня ўзрасьлі цэны на хлеб і батон, якія належаць да сацыяльна значных харчовых тавараў. Зараз за бохан хлеба з сумесі жытняй і пшанічнай мукі трэба заплаціць 256 рублёў, а за пшанічны батон – ад 392 да 500 рублёў.

Мала што дасьць і падвышэньне з 1 студзеня падатку на паліва з 10 да 20%, тым болей, што толькі палова падаткавай прыбаўкі будзе паступаць у бюджэт. Як ні выкручваюцца ў міністэрствах фінансаў і эканомікі, усё адно пры ўсіх сэквэстрах бюджэту для падвышэньня заробнай платы бюджэтнікам не хапае 120 млрд. рублёў. Абяцаньне падвысіць заробкі да 100 даляраў для бюджэтнікаў выглядае як блеф са знакам якасьці. Сапраўды, як можна рэалізаваць абяцанае, калі, паводле афіцыйных дадзеных, у сьнежні месячныя заробкі склалі ў сфэры адукацыі – 58 даляраў, сацыяльным забесьпячэньні – 41 даляр, у сыстэме аховы здароўя – 68 даляраў, а ў працаўнікоў мастацтва – 51 даляр. Жабрачай засталася заробная плата ў калгасах – 45,7 тыс. рублёў, ці толькі 37 даляраў. Невыпадкова сам А. Лукашэнка, адчуўшы немагчымасьць выкананьня дадзенага абяцаньня, спачатку заявіў, што 100-даляравы рубеж будзе дасягнуты да сярэдзіны году, а затым – толькі да канца году, гэта значыць ужо пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

Нязбытнасьць дадзенага абяцаньня праглядаецца яшчэ й у тым, што ўсе разьлікі паводле даходаў і выдаткаў бюджэту зробленыя з улікам таго, што дэвальвацыя беларускага рубля ў адносінах да даляру дасягне да канца году роўню 1600 рублёў за 1 даляр. Між тым, тэмпы інфляцыі ў студзені паводле разьлікаў аналітыкаў і перадумовы інфляцыйнага працэсу, закладзеныя ў эканамічныя працэсы летась, а таксама прывязка беларускага рубля да расейскага, які таксама вельмі плавае ў адносінах да канвэрсоўных валютаў, дэвальвуюць беларускі рубель да канца году да роўню 1900 рублёў за 1 даляр. А гэта азначае, што кошты ўзьлятуць за год ня меней як у 2 разы і зьядуць усе намінальныя прыбаўкі заробкаў. Гэта відаць сёньня нават няўзброеным вокам, тым болей, што гуртовыя кошты ў прамысловасьці выраслі летась у 3 разы. З новага году пачынаецца пераліваньне гэтага росту ў вытворчасьць спажывецкіх тавараў. Рост рэальнай заробнай платы да роўню 100 даляраў стане немагчымым.



***167 тысячаў подпісаў беларускіх настаўнікаў пад зваротам да ўраду Беларусі з патрабаваньнем павелічэньня заробку на фоне Васіля Стражава – міністра адукацыі РБ.***

Немагчымасьць падвышэньня рэальных заробкаў настаўнікаў, мэдыкаў ды

*працяг на стар. 5*

# Супраць пому ёсьць прыёмы!

***Сэмінар пра негвалтоўныя мэтады барацьбы выклікаў у рэжыму шалёную гістэрыю. Ноты пратэсту беларускай амбасады ў Вільні й МЗСу, агрэсыўныя камэнтары беларускага тэлебачаньня, затрыманьне аднаго з удзельнікаў на мяжы й канфіскацыя ўсіх матэрыялаў...***

Гэтыя захады, а таксама хваля газэтных публікацыяў выклікалі ў грамадзтве вялікую цікавасьць да мерапрыемства. Асноўнымі пытаньнямі былі й ёсьць наступныя: «Чаму ж вучыліся ў Вільні лідэры й актывісты дэмакратычнага руху?» і «Што так напалохала дыктатуру?» Гэты артыкул – вэрсыя адказу на названыя пытаньні аднаго зь непасрэдных удзельнікаў.

Сэмінар быў цалкам прысьвечаны негвалтоўным дзеяньням (найчасьцей яны называюцца «негвалтоўны супраціў», «негвалтоўная абарона», «негвалтоўная барацьба»), якія прадпрымаюцца насельніцтвам ці яго асобнымі групамі дзеля абароны сваіх правоў. Побач з тэарэтычнымі ведамі ўдзельнікам быў рэпрэзэнтаваны доўгі шэраг прыкладаў негвалтоўнай барацьбы, у тым ліку відэафільм кампаніі PBS, прысьвечаны падзеям розных гадоў у ПАР, Чылі, Польшчы, Даніі, Індыі й ЗША, які дэманструе станоўчыя прыклады змаганьня людзей названых краінаў за свабоду й даводзіць, што асноўнай і вырашальнай умовай перамогі ва ўсіх выпадках была адсутнасьць гвалту з боку тых, хто адстойваў свае правы.

Насамрэч, гвалт супярэчыць чалавечай прыродзе. Нематываваны гвалт выклікае абурэньне ў людзей, і менавіта выкарыстаньне такой рэакцыі палягае ў аснове негвалтоўных дзеяньняў. І разуменьне сутнасьці негвалтоўнай барацьбы ёсьць выключна істотным, таму што толькі разумеючы сутнасьць можна эфэктыўна выкарыстоўваць негвалтоўныя мэтады як магутны сродак дасягненьня сваіх мэтаў.

Кожная ўлада, і дыктатарскія рэжымы не зьяўляюцца выключэньнем, абапіраецца на падтрымку насельніцтва. Гэтая падтрымка можа мець розныя формы, але галоўнае значэньне для рэжыму мае маўклівае супрацоўніцтва большасьці. Больш за тое, дзеля ажыцьцяўленьня сваёй улады дыктатарам патрэбная ляяльнасьць бюракратыі, службаў бясьпекі, войска, паліцыі й г. д. Усе названыя фактары называюцца ў тэорыі негвалтоўнай барацьбы «слупамі падтрымкі» рэжыму, і сутнасьць мэтадаў негвалтоўнага змаганьня палягае ў разбурэньні гэтых «слупоў».



Першаснай задачай лідэраў негвалтоўнага супраціву ёсьць перакананьне насельніцтва ў антыгуманістычнай, гвалтоўнай і варожай сутнасьці рэжыму. На гэтым этапе змаганьня негвалтоўныя дзеяньні плянуюцца такім чынам, каб адкрыта й выразна дэманстраваць свой пратэст, не парушаючы пры гэтым маральных нормаў грамадзтва й фармальных патрабаваньняў заканадаўства. Рэжым ня можа дазволіць, каб гэтыя дзеяньні працягваліся дастаткова доўгі час, паколькі яны актыўна ўплываюць на грамадзкую думку й даюць людзям прыклад абароны сваіх правоў. (Гэта не абавязкова мусяць быць палітычна скіраваныя акцыі, яны могуць мець на мэце паляпшэньне нейкіх побытавых умоваў жыцьця). Разам з тым, гвалтоўна падаўляючы такія дзеяньні, рэжым вымушаны сам груба парушаць нормы маралі й заканадаўства, выклікаючы гэтым абурэньне людзей і губляючы падтрымку й жаданьне супрацоўніцтва ў розных структурах улады.

Наступны этап барацьбы скіраваны на тое, каб давесьці й паказаць насельніцтву й служачым тыя формы негвалтоўнага супраціву, якія яны маглі б ужываць у адпаведнасьці са ступеньню сваёй гатоўнасьці да барацьбы. Зусім неабавязкова, каб усе нязгодныя выходзілі на вуліцы альбо галадавалі. Вельмі эфэктыўным і, разам з тым, дастаткова бясьпечным мэтадам ёсьць несупрацоўніцтва, калі людзі не адмаўляюцца працаваць на рэжым адкрыта, але выконваюць свае функцыі нясвоечасова, недакладна й неналежным чынам, разбураючы эканамічны й адміністрацыйны патэнцыял рэжыму.

Натуральна, негвалтоўныя мэтады барацьбы ёсьць найбольш небясьпечнымі для рэжыму, паколькі ў такім выпадку змаганьне адбываецца ў той сфэры, дзе ён ня мае ніякіх перавагаў, больш за тое, добра падрыхтаваны й экіпіраваны карны апарат ператвараецца ў цяжар, які не прыносіць карысьці й пры гэтым паглынае значныя рэсурсы. Рэжым губляе ініцыятыву й ня можа супрацьстаяць разбурэньню ўласных апараў. Менавіта гэтымі фактарамі й тлумачыцца звышнэрвовая рэакцыя Лукашэнкі на віленскі сэмінар.

Гэтая рэакцыя ўладаў ёсьць вельмі добрым знакам для нас. Рэжым сам паказвае нам, чаго ён баіцца. І мы мусім скарыстаць атрыманыя веды й досьвед у поўнай меры. Мы маем эфэктыўны інструмэнт дзеля таго, каб перамагчы. Натуральна, тэма стратэгіі негвалтоўнага супраціву мусіць быць яшчэ добра распрацаваная як на старонках «Навінаў», так і ў фронтаўскіх структурах. Такія аспэкты, як неабходнасьць жорсткай дысцыпліны, стратэгічнае й тактычнае плянаваньне й іншыя патрабуюць шырокага асьвятленьня. Галоўнае ж перакананьне, якое я прывёз у Менск – мы маем сродкі дзеля таго, каб перамагчы. Усё залежыць ад нас.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ,**
**сябра Сойму БНФ**



*Пачатак на стар. 4*

# БЛЕФ СА ЗНАКАМ ЯКАСЬЦІ

іншых бюджэтнікаў стала відавочнай падчас нядаўняга абмеркаваньня калектыўнай дамовы паміж прафсаюзамі, урадам і працадаўцамі. Прадстаўнікі прафсаюзаў патрабавалі, каб заробная плата настаўнікаў блізілася ў пэўнай прапорцыі да заробкаў у прамысловасьці. Пытаньне так ставілася й раней. Але зараз урадавыя чыноўнікі вылучылі іншае патрабаваньне – менавіта каб заробкі настаўнікаў набліжаліся да сярэдняй заробнай платы ў краіне. Але гэта зусім іншы падыход, які ёсьць адно прадвесьнікам безнадзейнасьці.

Як можна спадзявацца на рост рэальнай заробнай платы, калі ў краіне ўсталёвалася такая сытуацыя з заробнай платай, што, паводле зьвестак эканаміста Леаніда Заікі, трэба пераадолець мізэрную зарплату маладым спэцыялістам – усяго 17 тысячаў рублёў (гл. «Звязду» за 17 студзеня).

Марнасьць сваіх імкненьняў адчувае й А. Лукашэнка. Нядаўна ён заявіў, што з мэтаю эканоміі сёлета будуць скарочаныя штаты ў МУСе на 5000 асобаў. Цікава, чаму не на 50 000 чалавек? Бо пры празьмерных выдатках на праваахоўнікаў нельга сур'ёзна казаць аб росьце рэальнай заробнай платы ў краіне і аб удасканаленьні разьмеркавальных адносінаў у цэлым.

# Беларуская вайсковасьць

***З гэтага нумару да ўвагі чытачоў «Навінаў БНФ» у выглядзе пытаньняў і адказаў будзе прэзэнтаваная сэрыя гістарычных артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай вайсковасьці XX стагодзьдзя. Нашая вайсковя гісторыя, гісторыя збройнага змаганьня за дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі надзвычай багатая на падзеі й асобы. У свой час яна была незаслужана зганьбаваная і забытая, але зараз адраджаецца і чакае сваіх дасьледнікаў, чытачоў і аматараў.***

**Рубрыку вядзе гісторык Віктар АСТРОГА**

## 1. ШТО ТАКОЕ БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ ВАЙСКОВАЯ РАДА?

Беларуская цэнтральная вайсковая рада (БЦВР) была вышэйшым органам, які кіраваў арганізаваньнем Беларускага войска ў 1917-1918 гг.

Лютаўская буржуазная рэвалюцыя, якая адбылася ў Расеі ў 1917 г. значна актывізавала беларускі нацыянальны рух. Не засталіся ў баку і беларусы-вайскоўцы, моцна палітызаваныя ў той час. Так, 8 траўня таго ж году ў Рызе ўзьнікла першая беларуская вайсковая суполка, якую стварыў малодшы унтэр-афіцэр 24-й асобнай тэлеграфнай роты XII Арміі Паўночнага фронту Я. Мамонька. А ўжо 15 траўня ў Менску была ўтвораная Беларуская вайсковая арганізацыя (БВА), якая мела на мэце «злучыць ваенных беларусаў». Стыхійнае стварэньне беларускіх арганізацыяў і гуртоў у войску значна ўзмацнілася пасьля стварэньня ў ліпені на II зьездзе беларускіх партыяў і арганізацыяў Цэнтральнай рады беларускіх арганізацыяў (ЦРБА). У ейных дакумэнтах адзначалася: «Самыя сьвядомыя людзі цяпер у войску. Трэба ўзяцца за арганізаваньне ваенных». Зьезд сфармаваў Арганізацыйнае бюро беларусаўвайскоўцаў, а дэлегата А. Кахановіча прызначыў палітпрадстаўніком Рады пры Стаўцы Вярхоўнага галоўнакамандаваньня дзеля абароны жаўнераў-беларусаў. Пасьля зьезду ў войску хутка пачалі ўзьнікаць культурна-асьветніцкія гурткі. Ягоныя сябры мусілі размаўляць паміж сабою па-беларуску, па-беларуску весьці справаводзтва і пісаць лісты дадому, паведамляць у сваю вёску пра беларускі рух. Акрамя таго, кожны сябра павінны быў «насіць беларускі нацыянальны знак – белая стужка з чырвонай палоскай пасярэдзіне».

Падобных суполак з кожным днём станавілася ўсё больш. Так, у XII Арміі ў іх складзе налічвалася да тысячы сябраў, на Балтфлоце – да васьмісот.

З восені стала відавочнай неабходнасьць стварэньня беларускіх нацыянальных частак. У кастрычніку, на 2 сэсіі ЦРБА і зьездзе беларусаў-вайскоўцаў Заходняга і Румынскага франтоў, XII Арміі, Балтфлёту было вырашана стварыць Цэнтральную беларускую вайсковую раду й пачаць фармаваньне Беларускага войска. Старшынёю рады быў абраны С. Рак-Міхайлоўскі, ягонымі намесьнікамі сталі К. Езавітаў і Я. Мамонька (пазьней Т. Грыб). Пры БЦВР былі ўтвораныя рэдакцыйная, агітацыйная, фінансавая, гаспадарчая, культурна-асьветніцкая камісіі й Бюро па арганізацыі Беларускага войска. Бюро узначаліў генэрал інфантэрыі К. Кандратовіч. Ягонымі памочнікамі былі – генэрал-маёр Пажарскі, палкоўнік П. Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Фармаваньнем беларускіх частак на Заходнім фронце пачаў займацца К. Кандратовіч, Паўночным – К. Езавітаў, Паўднёва-Заходнім – Пажарскі.



*Менск, 15 кастрычніка 1917 г. Сумеснае паседжаньне Вялікай Беларускай Рады і БЦВР.*

Напрыканцы кастрычніка, пасьля перамоваў, Вярхоўны галоўнакамандуючы расейскімі войскамі генэрал М. Духонін дазволіў БЦВР стварэньне на Заходнім фронце беларускага корпусу. Але бальшавіцкі пераварот, зьняцьце імі Духоніна, прымусіў Раду патрабаваць ужо ў новага галоўнакамандуючага – прапаршчыка М. Крыленкі – зацьвярджэньня ранейшага рашэньня аб фармаваньні 1-га Нацыянальнага Беларускага полку і Беларускага Корпусу. Прапаршчык пагадзіўся, але ўжо праз некалькі дзён пад ціскам бальшавіцкага кіраўніцтва Заходняй вобласьці й фронту на чале з К. Ландэрам забараніў.

Аднак утварэньне беларускіх частак ужо пачалося – у Менску фармуецца 1-ы Нацыянальны Беларускі полк, у Віцебску – Беларускі пяхотны полк, у Смаленску – 1-ы Смаленскі беларускі полк, на Румынскім фронце – 4-ты пяхотны корпус.

Гэткім чынам, у 1917 годзе быў пакладзены пачатак стварэньня Беларускага Войска. Аднак бальшавікі, скарыстаўшыся вайсковаю перавагаю, дэмамагічнаю прапагандаю, нізкай нацыянальнай сьвядомасьцю беларусаў, у сьнежні таго ж году разагналі Усебеларускі зьезд, пазьней, 30 студзеня 1918 году, распусьцілі і БЦВР, арыштавалі яе сябраў. Пасьля гэтага працэс фармаваньня нацыянальнага беларускага войска на абшарах краю быў фактычна паралізаваны і працягнуўся толькі па-за яго межамі.

## 2. ШТО ТАКОЕ БЕЛАРУСКІ АСОБНЫ БАТАЛЬЁН ЛЕТУВІСКАГА ВОЙСКА?

Беларускі асобны батальён (БАБ) – беларускае вайсковае фармаваньне ў складзе збройных сілаў Летувіскай Рэспублікі ў 1920-1923 гг.

Беларуска-летувіскія вайсковыя кантакты пачаліся ў лістападзе 1918 году, калі ў Вільні былі закладзеныя штабы 1-га і 2-га Беларускіх палкоў. Пазьней, зь лютага 1919 году, 1-шы полк (камандзер - палкоўнік М. Лаўрэнцьеў) быў перадысьлякаваны ў Горадню, а 2-гі расфармаваны. Аднак, калі ў траўні Горадню занялі палякі і пачалі раззбройваць нешматлікія беларускія падразьдзелы, частка апошніх адышла ў Коўну, дзе з чэрвеня былі ўтвораныя 1-я і 2-я Асобныя беларускія роты (АБР). Ужо 20 чэрвеня 1-я АБР (камандзер - маёр А. Ружанцоў) была накіраваная на фронт супраць чырвоных і польскіх войскаў. 15 кастрычні-

*Працяг на стар. 7*

# Чарговы ўдар па свабодзе слова

***Сусьветная кампанія за свабоду слова ARTICLE 19 лічыць праект Закону РБ «Аб інфармацыйнай бясьпецы» яшчэ адным прамым ударам па свабодзе сродкаў масавай інфармацыі ў краіне.***

Сусьветная кампанія за свабоду слова ARTICLE 19 зрабіла заяву адносна праекту Закону РБ «Аб інфармацыйнай бясьпецы». У заяве ARTICLE 19 гаворыцца, што арганізацыя вельмі занепакоеная плянамі ўвесьці ў Беларусі заканадаўства, накіраванае на забесьпячэньне «інфармацыйнай бясьпекі» ці «абароны інфармацыі» і лічыць гэта яшчэ адным прамым ударам па свабодзе сродкаў масавай інфармацыі. Асабліва, гаворыцца ў заяве, гэтыя пляны выклікаюць сур"ёзную заклапочанасьць у сьвятле будучых прэзыдэнцкіх выбараў, а таксама і без таго гаротнага стану незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. ARTICLE 19 лічыць, што Закон «Аб інфармацыйнай бясьпецы» самым жорсткім чынам можа абмежаваць свабоду інфармацыі ва ўсіх сфэрах грамадзтва. Тое ж самае тычыцца і законапраекту «Аб абароне інфармацыі».

ARTICLE 19 заявіў, што лічыць вельмі нездавальняючым той факт, што законапраекты, якія могуць стаць заканадаўчымі, не былі абнародаваныя дзеля агульнага абмеркаваньня, а будуць толькі разглядацца ў парлямэнце краіны ў лютым бягучага году.

Сусьветная кампанія за свабоду слова зрабіла шматлікія заўвагі адносна законапраекту «Аб інфармацыйнай бясьпецы», дзе заастрае ўвагу толькі на ягоных некаторых прынцыповых недахопах, бо «ён ня варты глыбокага аналізу», сказана ў заяве. ARTICLE 19 выказвае меркаваньне, што «падобнаму заканадаўству няма месца ў дэмакратычнай дзяржаве і яго неабходна тэрмінова прысекчы».

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**



*Пачатак на стар. 6*

# Беларуская вайсковасьць

ка на фронт прыбыла і 2-я АБР (камандзер – А. Гансэн). 17 лістапада абедзьве яны былі аб'яднаныя ў Беларускі пяхотны батальён (камандзер – капітан С. Січка). Але ў красавіку 1920 г., у сувязі са звальненьнем зь ягоных шэрагаў усіх грамадзянаў Летувы, частка зьменшылася да Беларускай асобнай роты (БАР) (камандзер – маёр А. Ружанцоў).

Як вядома, 12 ліпеня таго ж году, паміж Савецкай Расеяй і Летувой была заключаная дамова, згодна зь якой да апошняй мусілі адысьці гарады Вільня, Горадня, Ліда, Ашмяны й інш. У гэтай сувязі летувіскаму ураду тэрмінова была патрэбная сілавая падтрымка беларусаў, а «рокаш» генэрала Жалігоўскага, стварэньне ім «Сярэдняй Літвы», яшчэ больш прасунулі гэтыя дачыненьні. З урадам БНР В. Ластоўскага была заключаная таемная дамова аб антыпольскіх паўстанцкіх дзеяньнях на тэрыторыі Заходняй Беларусі і, у прыватнасьці, у Коўне завяршалася фармаваньне адмысловага Беларускага асобнага батальёну, пачатае ў Вільні 27 верасьня 1920 году.

На 1 сьнежня 1920 году, калі да новага фармаваньня далучылася БАР, батальён пад камандаю палкоўніка Усьпенскага (з 1922 г. – маёра Розманса) складаўся з роты пяхоты, камэндатуры й інтэндатуры, вучэбнага зьвязу, зьвязу сувязі і каманды коннай выведкі. Таксама БАБ меў культурна-адукацыйную і гістарычную камісіі. Колькасьць часткі вагалася каля 500 чалавек. Напачатку батальён дысьлякаваўся ў Коўне, пазьней у Гудзінах, з 1922 году ў Вілкавішках, Мярэчы, а з 1923 году ў Марыямпалі.

БАБ прымаў актыўны ўдзел у згаданым паўстанцкім руху. Ён стаў вучэбным і ідэалягічным асяродкам, базаю падрыхтоўкі партызанаў.

Нягледзячы на пэўныя цяжкасьці беларускія актывісты часткі – афіцэры В. Разумовіч, Я. Гайдукевіч, Валасовіч, Маёраў, Якаўлеў, праваслаўны капэлян І. Карчынскі – праводзілі сярод жаўнераў нацыянальную працу. Так, з 15 кастрычніка 1921 г. у батальёне выдаваўся ілюстраваны двухтыднёвік «Сьветазар» (рэдактары капітан Я. Гайдукевіч, ст. лейтэнант В. Разумовіч). З 1 траўня літаратурны аддзел Летувіскага генштабу наладзіў выданьне часопісу для беларусаў «Вайсковы» (рэдактар маёр А. Ружанцоў). Падчас стацыянаваньня ў Мярэчы, афіцэр БАБ Разумовіч удзельнічаў у выданьні газэты беларускіх паўстанцаў «Беларускі партызан».

Трэба адзначыць, што на той час асобны батальён быў унікальнаю вайсковаю адзінкаю, як пісаў у 1921 годзе маёр Ружанцоў: «Сучасныя абставіны такія, што ва ўсім сьвеце толькі на Літве захавалася жменя беларусаў-ваякаў, што маюць яшчэ права і гонар называцца беларусамі, што маюць яшчэ шчасьце служыць у сваіх нацыянальных частках, са сваёй камандай, мовай, звычаямі, сярод сваіх жа сяброў - беларусаў...» Батальён праіснаваў да вясны 1923 году. У гэты час зьмянілася міжнародная сытуацыя, вядучыя дзяржавы сьвету прызналі ўсходнюю мяжу Польшчы разам зь Сярэдняй Літвою. У сувязі з гэтым, у летувіскага ўраду зьнікла зацікаўленасьць да антыпольскай дзейнасьці беларусаў. Таму 25 красавіка БАБ быў перафармаваны ў Асобную беларускую роту (камандзер – лейтэнант Яськаў), якая ў тым жа годзе была ўвогуле зьліквідаваная.




*Штаб Беларускага Асобнага Батальёну. Наперадзе чацьвёрты справа – камандзер батальёну палкоўнік Усьпенскі. Коўна, 1921 г.*

# Людзі вераць дэмакратам, а не казіяткам

*27 студзеня намесьнік старшыні Партыі БНФ Вячаслаў Сіўчык і старшыня АГП Анатоль Лябедзька наведалі мястэчка Васілевічы, дзе жыве маці былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі.*

У той жа дзень палітыкі скіраваліся ў Рэчыцу. У мясцовым Доме культуры адбылася сустрэча з жыхарамі гораду. Акрамя менскай дэлегацыі ўдзел у ёй бралі кіраўнікі мясцовых структураў БНФ і АГП – Віктар Раманішка й Уладзімер Кацора.

На сустрэчу зьявілася некалькі сотняў людзей, у тым ліку зь дзясятак пэнсіянэрак, прыхільніцаў А.Лукашэнкі.

Вячаслаў Сіўчык распавёў карэспандэнту «Навінаў БНФ», што шмат пытаньняў да выступоўцаў былі навеяныя Лукашэнкаўскай прапагандай: колькі даляраў вам плацяць за тое, што хочаце прадаць Радзіму; ці можна крытыкаваць Лукашэнку, калі ён усенароднаабраны; ці ёсьць у апазыцыі праграма і таму падобныя.

Як сьведчаць прадстаўнікі дэлегацыі, пасьля шчырай размовы, якая адбылася падчас сустрэчы, абсалютная большасьць людзей, у тым ліку і пэнсіянэраў, зразумела, што ня ўсё так проста, як ім кажуць Казіятка й К.

Людзі пачынаюць нарэшце разумець гора спн. Ульляны Захаранкі і іншых маці зьніклых апанэнтаў рэжыму, і тое, што палітыкі сядзяць у турмах з-за сваіх поглядаў, і што людзі бяднеюць. Для удзельнікаў сустрэчы стала відавочна – выйсьце толькі ў зьмене ўлады.

28 студзеня дэлегацыя сустрэлася з актывістамі дэмакратычных партыяў і арганізацыяў Мазыру. Улады спрабавалі перашкодзіць правесьці сустрэчу, забараніўшы збор у памяшканьні. Аднак гэтая акалічнасьць не паўплывала на сустрэчу: размова адбылася ў парку на беразе Прыпяці. Прыйшло каля 50 чалавек. Размова йшла пра стратэгію, праграму канкрэтных дзеяньняў, якія мусяць ажыцьцяўляць актывісты аб'яднаных дэмакратычных сілаў падчас прэзыдэнцкай кампаніі.

**Настасься ГЕРАСІМОВІЧ**

Ліст у рэдакцыю

# Словы скончыліся. Пачаліся жэсты.

У чарговы раз «вызначыўся» аўтар ды вядучы гэтак званай аналітычнай праграмы «Панарама», што выходзіць у суботы, таварыш Казіятка. Ня так даўно ён ляпнуў пра танкі, на якіх савецкія грамадзяне маглі лёгка, без аніякіх візаў, патрапіць у Польшчу ды Вугоршчыну. У перадапошняй жа сваёй перадачы, якая выйшла ў сьвет 27 студзеня, ён заявіў, што з усіх заходніх каштоўнасьцяў, «яны (г. зн. апазыцыя. – *Аўт.*) засвоілі адно: добра загінаць чатыры пальцы», ды паказаў на ўвесь экран буйным плянам кулак з узьнятым сярэднім пальцам. Гэта ж як трэба не паважаць свой электарат (а хто ж яшчэ глядзіць перадачкі такога кшталту), каб на ўсю краіну ў найлепшы час дэманстраваць такія непрыстойныя жэсты. Праўда, Казіятка зазначыў, што жэст непрыстойны. Вось жа атрымліваецца, што Зімоўскі вычвараецца вэрбальнымі сродкамі (пакуль што?), а ў калегі Казіяткі, мабыць, слоўнікавы запас ужо скончыўся, дык ён і перайшоў на мову жэстаў. Дарэчы, за аналягічны жэст, паказаны заўзятарам на трыбунах, у свой час быў выведзены са складу футбольнай зборнай Нямеччыны падчас чэмпіянату сьвету і потым дыскваліфікаваны на пэўны тэрмін гулец Штэфан Эфэнбэрг.

Але Казіятку дыскваліфікацыя не пагражае. Гэта цяпер. А потым?

**Міхаіл ЦІРЭНЯ**

Relax

## Выстава Галіны Горавай

**У менскай сядзібе Партыі БНФ «Адраджэньне» (вул. Варвашэні, 8) адчынілася выстава мастачкі суполкі «Пагоня» Галіны Горавай. У выставах яна ўдзельнічае з 1995 году – Менск, Віцебск, Нямеччына. На новай выставе, якая складаецца блізу з 20 палотнаў, можна пабачыць карціны на розныя тэмы: прырода, рэлігія, горад...**

**Уваход вольны.**

# Што плянуе БМAgroup?

Да пачатку лютага 2001 году БМAgroup рыхтуе новы альбом «Песьні пра каханьне», прымеркаваны да цэлага шэрагу сьвятаў, якія абрынуцца на грамадзкасьць у лютым-сакавіку. Перш за ўсё маецца на ўвазе Дзень усіх закаханых 14 лютага, а таксама «ўзаемныя» даты: 23 лютага й 8 сакавіка. Як можна зразумець з назвы альбому, які выйдзе ў фармаце аўдыёкасэты, кампіляцыю складуць «танцавалкі» й «медлякі» зь яскравай любоўнай лірыкай. У кампіляцыі возьмуць удзел Крама, Нейро Дюбель, Крыві, Новае Неба, Палац, NRM, Іна Афанасьева, EXIST, Белы сон (Польшча), Безь білета й іншыя. Апроч прыемнай музыкі, закаханых чакае таксама бонус-сюрпрыз, які будзе прыкладзены да кожнай з касэтаў.

Прэзэнтацыю альбому плянуецца правесьці напярэдадні Дня Сьвятога Валянціна, 13 лютага ў клюбе «Акварыюм».

**Акрамя гэтага на 2001 год БМAgroup плянуе:**

**люты** – выданьне альбому гурту «Безь білета» (самы верагодны прэтэндэнт на намінацыю «Адкрыцьцё году» на Рок-каранацыі-2000); прэзэнтацыя першага нумару «самага чэснага музычнага часопісу POST'R»

**люты-сакавік** – выданьне кампактдыску «Легенды Вялікага Княства» (музыка старажытнай беларускай дзяржавы)

**красавік-травень** – выданьне трэцяга кампакт-дыску з сэрыі «Вольныя танцы»

**красавік** – чарговыя альбомы з сэрыі «Беларускі Музычны Архіў»: The best Сяржук Сокалаў-Воюш і Віктар Шалкевіч

На працягу вясны плянуецца арганізаваць беларускія гастролі польскага гурту «Jacques de Lousse» (ягоную песьню Inter love song шукайце на альбоме «Песьні пра каханьне»), а таксама плянуецца працяг туру «Вольныя танцы».

БМAgroup выказвае ўдзячнасьць усім гуртам, выканаўцам, музычным лэйблам і грамадзкім арганізацыям, усім чэсным і нячэсным журналістам ды фанатам айчыннай музыкі за тое, што былі з намі, і спадзяецца на далейшае плённае супрацоўніцтва.

**Паводле прэсавага рэлізу БМAgroup**



Навіны БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

№ 3 (36), 6 лютага 2001 г, наклад 299 асобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах нутранай дакумэнтацыі.

У нумары скарыстаная выява Пагоні з тытульнага аркуша Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

Адрас для ліставаньня: 220005, Менск, а/с 42, тэл. 284-50-12

E-mail: bnf@journalist.com

в.а. рэдактара Віктар Івашкевіч

рэдактар нумару Аляксей Шэін

У нумары выкарыстаныя фатаздымкі Irex/ProMedia